***

Яшчэ скуль ведаць хлапчуку,
што ёсць на свеце абеліскі:
ён усміхаецца з калыскі,
да маці цягнучы руку.

Празрыстасць сонечнага дня —
расчынены ўсе вокны насцеж...
Вось простае людское шчасце:
Сын.
Маці.
Сонца.
Цішыня.

***

О, як жа трывала ты мукі свае
і як твае рукі цягнуліся ў неба!
Мо гэтак па кроплі сябе аддае
змялелая рэчка засушанай глебе.

Мо яблыня гэтак ламае галлё
ў апошняй надзеі, што ўсё ж абароніць
танюсенькі пасынак і варанне
яго недзе ў полі пустым не аброніць.

Малы камячок — ад карэнняў тваіх,
галінка зялёная — жылка на пульсе.
Маліла жывых і памерлых — усіх:
яны дапамогуць, яны не дапусцяць.

І горка памерлым было і жывым,
а ты паміж імі ў зняменні і болю
казала вачыма, кіўком галавы:
ты ведаеш выйсце, яно за табою…

І рунь па-над рэчкаю бралася ў рост,
і пасынак яблынькай новай усходзіў,
і крыкам дзіця абвяшчала, што ёсць
пачатак бяссмерцця ў пакутах народзін!

***

Чалавек дасюль яшчэ ў зародку,
ва ўлонні матухны-прыроды,
у пукатым чэраве Зямлі;
ён толькі-толькі знакі падае —
памкненнем імпульсіўным цела,
успышкамі пачуццяў сумятлівых
ды роспачных здагадак
пра акаліпсісы ў свеце і ў сабе.

Рэнтгенна — гэта мятлік,
што бязгучна б’ецца ў сценкі
замкнёнае няўмольнае прасторы;
калі ж і прарывае абалонку —
“Чалавек сягнуў у Космас!”
“Чалавек ступіў на Месяц!” —
па неадцятай пупавіне
вяртаецца пакорліва назад.

Але зародак выспець мусіць:
у ім глыбінная ёсць памяць
пра шлях крыжовы да Любові,
і ў ім сусветная ёсць Воля
пад сумненне ставіць непаўторнасць,
з якою за тысячагоддзі
народжаны Зямлёю векавечнай
адзін-адзіны Сын.

***

Травою быў — а нехта ў небе сінім
сказаў: адчуй свой боль і стань мне сынам.
І я прайшоў шлях веры і зняверы,
парою грукаўся ў чужыя дзверы,
любіў, кахаў і зведаў смак самоты…
Але — што потым?
Я не прыму фальшывай пазалоты
на сэрцы і траве, што мне раднёю.
Мне ўсё радзей лавіць прамень над ёю,
часцей — сачыць за знічкавым палётам.
Але — што потым?
Травінку пацалую без употы,
не ў гнеў таму, чый кліч у небе сінім
пачуў аднойчы, каб назвацца сынам.
І страціць сэнс адвечная турбота —
а потым што?..
Бясспрэчны і адзіны
адказ ёсць там, адкуль няма звароту.

## Чалавек
## (З Леаніда Палтавы)

Па бруку, захінуты ў паліто,
прыгорблены, ідзе няпэўным крокам.
І не ўгадае ў ім ужо ніхто
ні бацькі, ні героя, ні прарока.

Але кажу сабе: пільней зірні,
і ўсмешкай прывітай, і дай дарогу.
Бо ці ж не так у небнай глыбіні
мы бачым хмары — і не бачым Бога?

***

Так, гэта да скону — нябёсы ў вачах:
сляза — што дажджынка,
смяшынка — што промень.
Не раз яшчэ чыстая сінь па начах,
як знічку, здагадку аброніць,
дыхне цеплынёю не раз па вясне,
журбою, як дымкай,
засмужыцца ўвосень.
А ў часе трывог і сумненняў блісне
надзея — высокая просінь.

***

Прагнаць тугу, і думаць аб былым,
і пазіраць, як паплавы дымяцца,
дзе дыбаюць, як белыя буслы,
касцы наўкруг — па рутвіцы ды мяце.

І слухаць, як да плыткіх берагоў
вада рачная лашчыцца бязважка,
і разумець, што ў сувязі гадоў
было ўсё значна, хораша і важна.

І ўсё прымаць: тугія чараты,
і плёскат рыб, і пырскі хваляў срэбных;
і адчуваць: калі з'явіўся ты,
дык, значыць, ты
зямлі сваёй патрэбны.

І не хацець ні славы, ні хвалы,
а ўсё не ведаць,
чым аддзячыць лёсу…
Пакуль касцы, як белыя буслы,
не травы ў лузе — лета твае косяць.

## Адзінства

Я часцінка зямлі,
і таму мне балюча,
калі нішчацца дрэвы,
высыхаюць крыніцы.

Гэта мой востры боль
крыкам жаласным кані
прылятае так часта
да сяліб
з сенажацей.

Мой дакорлівы позірк
вы сустрэнеце ў лесе
ў “вочках” белай бярозы:
апусціце сякеру!..

Асцярожна трымае
на далонях дзяўчынка
маё цёплае сэрца —
спелы яблык чырвоны.

## Эвалюцыя

І знік хаос
дзеля вады і сушы,
і дараслі амёбы да звяроў,
а малпы выйшлі ў людзі.
Самы дужы
стаў чалавек: пачаў ствараць багоў.
Стварыў і адцясніў.
Узвёў ён дамбы
для рэк і мораў,
печы — для агню.
(І дыназаўра ў клетку ён загнаў бы,
калі б той у нябыт не сігануў.)
Стаў цесны
чалавеку
свет вялікі.
Напяў ён цяглі ды напружыў мозг,
спусціўся ў нетры атама
і ўсклікнуў:
“Вось ён, былы і… будучы хаос!”

***

Я ўведаў: сэнс — на вастрыі ляза,
так абвастрыўся кожны ў свеце лёс…

… Скацілася матуліна сляза
за незлічонасць чалавечых слёз.

***

О лёс мой, выказацца дай,
не забяры мяне заўчасна
ў далечу тую, дзе так часта
мне будзе сніцца любы край.

Яго вяснянкі, пошум дрэў
заўжды ўва мне, як сіла ў ветры,
і спеляць збуджаныя нетры
душы
  мой заўтрашні напеў.

Дай слову добраму ўзрасці,
пакуль я на жыццё багаты.
Шчаслівы сейбіт і араты,
дзён для жніва мне адпусці.

Не стане моцы — і няхай! —
у памяці, руцэ, у зрэнцы…
Усё вазьмі — і толькі сэрца
пакінь
                і выказацца дай.

## Дакор

Плач твой бачыў толькі месяц,
чуў
вятрыска-лістабой,
ды яны нікому ў свеце
не сказалі пра твой боль.

Не сказалі.
Але вецер
біўся птушкаю ў акне,
і ўсю ноч глядзеў праз вецце
сумна месяц на мяне.

Ранкам знік ён — белы востраў,
долу скінуўшы святло;
вецер быў пякуча-востры,
як паранены аб шкло.

***

Няхай бушуе лёс, бы акіян,
і раняць сэрцы чэрствыя, як рыфы, —
па хвалях дзён, дзе ўспененыя грывы,
на дабрату
заўжды кірую я.

Мне курс то страчваць, то знаходзіць зноў,
але ў канцы я шлях свой абазначу,
таму што больш,
чым сэрцаў-рыфаў,
бачу
гарачых, добрых сэрцаў-маякоў.

***

Навошта я расчульваць вас хачу:
не да сябе — да роснае травінкі,
да гэтага вясёлага дажджу,
да песень жней з палескае глыбінкі?

Да гэтага дзіцяці, што бяжыць,
як пасланец, як сувязны нязменны,
і тым, каму на свеце заўтра жыць,
ад тых, хто жыў, — нясе багаславенне?..

Нібы няўцям, што сёння ўсё радзей
вы схільныя расчульвацца; вы знаўцы
прыродных таямніц, хады падзей
і нават незямных цывілізацый.

За вашу мудрасць дарага плачу —
няведаннем уласнага дзівацтва,
чаму, нашто любові вас вучу
без боязі адсталым называцца.

Скуль тая цяга — праз абсяг вякоў
не забываць і не цурацца звычкі
расчульваць сэрцы, быццам браць з віроў
і саграваць астуджаныя знічкі?

## НЕЗНАЁМЫ

Скалане: падабенства Іуды.
Цёмны позірк.
                    А як разгадаць —
мо ад цяжкай віны і пакуты,
і няма каму
                    паспагадаць?..
Мне працягне скупыя далоні.
Што ў іх — зман
                              ці ўзаемін зачын?
У вачах, за халоднай заслонай —
ні сяброў,
          ні найлепшай з жанчын.
Не спытаю, якія намеры,
адмахнуся ад думкі пра нож.
Небяспечнае
                    хочацца веры?
І з сябе пасміхнуся: ну, што ж…
Раптам возьме ды стане
                                        харошы,
засумуе са мной па красе.
А прадасць — дык за гэтыя грошы
ладны крыж і цвікоў прынясе.

***

Не чуем болей фарысейскіх “песняў”,
што толькі хлебам людзі пражывуць.
Дзе дух заплеснеў,
там і хлеб заплеснеў,
калі без волі жнец — не быць жніву.

Знікаюць у жытах арыенціры:
занесла пылам босыя сляды,
звяў васілёк…
Зноў з кайстраю і лірай
у роздуме вандроўнік малады.

Няўжо спачатку ўсё: у світцы зрэбнай
ісці, каб словам сведчыць пра бяду,
і рукі прасціраць — вазьміце неба,
і не чакаць, што хлеба пададуць?..

***

Былі і ёсць яны, месіі,
што свет ратуюць ад бяды
ў часы бязвер'я і бяссілля,
у дні аблуды і нуды.

Яны і ў краі нашым родным
няспынны, незваротны шлях
не чалавецтву, дык народу
крывёю крэсляць на крыжах.

Адна ў іх мэта — дух раскуты,
любоў адзіная ў грудзях,
адзін і той жа знак пакуты,
і юда той жа, і суддзя.

З-за дроту ці з псіхіятрыі,
з-пад куляў альбо з-пад цвікоў
дарма чакаюць іх Марыі
на сумных ростанях вякоў.

І сёння скрозь абсяг трывожны
стараемся іх распазнаць —
адратаваць ужо не зможам,
але з крыжоў павінны зняць.

**Неба**

Маліліся небу,
                    каб выратавала ад сухменю,
і недзе апоўдні яно звечарэла,
і хмарку залётную
                              шызаю хмарай зрабіла,
і хлынула спорным іскрыстым дажджом.
Залапаталі, ажно зазвінелі
лістота прысадаў і лісце капусты.
забулькатала вада пад бульбоўнікам,
залапушыўся гарбузнік,
                                        заварушыліся
дагэтуль самлелыя агуркі.
Так хораша стала, так свежа, так пахка!
І кожнай градою
                              зазелянелася,
і кожнай разорай
                              засерабрылася,
і зачарнелася кожным узмежкам
                                                  зямля.
Нарэшце станчэлыя ніткі дажджу
папераразвалі вострыя ластаўкі,
і дзеці пабеглі па яблыкі-паданкі ў сад,
і выйшлі спаважна дарослыя —
пагаманіць каля весніц
                                        пра неба,
як пра ... палівачку для агародаў.

## Гэты

Гэты не грэбуе сябравай жонкай,
абы наталіцца;
гэты не ўпусціць свайго,
хоць бязвінным слязам і праліцца;
гэты і ў бацькі ўкрадзе,
каб манетаю свежай разжыцца;
гэты з выгоды
гатовы ад роднай зямлі адступіцца;
гэты, о Божа, у храм Твой
нязменна прыходзіць маліцца, —
гэты ніколі
ва ўсёдараванні Тваім не ўсумніцца!

***

Страшна сон яе парушыць —
ветру ўскінуўся павеў,
і над стромай капялюшык
сінім воблачкам плыве.

Пацяжэла аблачынка
і ўжо скача на вадзе…
Страшна, што й сама дзяўчынка
з краю берага ўпадзе.

Бо ўздыхае, быццам шчэлеп,
пад маторнае выццё
зрэз абвалу… А яшчэ мне
проста страшна за жыццё.

Гэтак смела мы планету
за стагоддзі абжылі:
крок, імгненне — і край свету,
небяспечны край зямлі.

## Перад свечкаю

Што век — са свечку, не тужыце:
узрост ці выстудзіць душу?
Вы хоць агарка не тушыце,
яго і сам не патушу.

Яго нясіце ў храм сасновы,
у вечаровы, залаты,
каб ён запалымнеў нанова
ад нехалоднай яснаты.

Яго трымайце, засланіўшы
ад скрадлівага скразняка,
над споведдзю бяссоннай Кніжкі,
над цёплым подыхам радка.

А ўночы, калі мулка спіцца,
хай скрозь адлегласць паўстае
ў ім водсвет хаты, як зарніца
нязгаснай памяці яе.

Краса, і вера, і айчына
слязінкаю раз’ясняць зрок,
і вам адкрыецца магчымасць
убачыць прышласць хоць на крок.

Дык перад свечкай не грашыце
на ўзрост, на прыцемак… Прашу:
вы хоць агарка не тушыце,
я сам — яго не патушу.

## Пасляваенная балада

На сваіх усё руках:
сена ў копы — па імхах,
дровы ў санках — па лядку,
зрэдку дзетак — па садку.

Рукі-ручанькі баляць:
і касіць самой, і жаць.

На сваіх усё руках:
ткаць ды прасці — па дварах,
за ручнік — па медзяку,
па слязіне — на шчаку.

Рукі-ручанькі баляць:
ні прасіць, ні жабраваць.

На сваіх усё руках:
вестку — мужу ў Салаўках,
хлеб — матулі на палку,
хрэст — на картачку ў кутку.

Рукі-ручанькі баляць:
гора горам не падняць.

На сваіх усё руках:
дзетачак — па дактарах,
а самой — па скразняку
то ў палях, то на таку…

Рукі-ручанькі баляць:
цяжка свечачку трымаць.

## Выток

Спаўна даніну аддалі
мы вершамі далёкім вёскам,
куды вяло нас ад сталіц
маленства спеўным адгалоскам.

Мацнеў і глыбіўся радок,
калі расстайны час палохаў,
што абмялее наш выток,
знямее, як сама эпоха.

Нас не прывабліваў Сусвет
бязмежны, стылы, безадносны,
нам сэрцы грэў, бы Запавет,
крынічна светлы сум па вёсцы.

Быў сум той — вернасць; не маглі
ўпадобіцца метэарытам,
што прабівалі цвердзь зямлі,
праходзячы ў нябыт з нябыту.

Між процьмы зорак і планет
шукаем і цяпер начамі
той мікракосмас, мікрасвет
пад небам, вечна велічальным.

Як выпала б гады вярнуць,
аснову набіраць нанова, —
няхай бы даў нам Бог дыхнуць
яшчэ раз першаісным Словам.

## Балада граху

Ля залатога парога
яна, мне аддаўшы яблык,
спакойна пайшла да Бога,
а я скіраваў да д’ябла.

І д’ябал за мой учынак
з кагорты сваіх наложніц
найлепшую даў жанчыну
і самы мякчэйшы ложак.

Юрлівасць начнога балю,
задуха слязы і поту
душу маю выбаўлялі
ад роспачы і самоты.

Я думаў — яны ўратуюць
ці знішчаць, але памалу
забудуся я на тую,
што яблыка не спазнала.

Ды раніцай зноў узнікла:
балюча падцяўшы вусны,
святое дзіцё, цнатліўка
стаяла сярод распусніц.

У зрэнках — ні шклінкі лёду,
пагарды ані на твары.
“Твая, — д’ябал мне. — Валодай”.
А я не прыняў ахвяры.

Бег прэч ад брыды і блуду
і скрушна крычаў я: “Годзе!..”
Дый сёння яна паўсюды
за мною, як помста, ходзіць.

***

Я хутка пайду…
Затрымай на хвіліну,
такія спагадныя рукі ў цябе!
Такімі, напэўна, замешвалі гліну
на першай любові, на першым цяпле.
У іх дабрыня і дакор — ад Самога…
Яны не для зла, не для сквапных уцех.
Усё блаславёнае імі: дарога,
і прага вяртання, і кара за грэх.
Дазволь затрымацца. Адпрэчу ваганні,
да рук, што стварылі мяне, прыпаду
без крыўды і жалю:
калі я выгнаннік,
дык з раю выгнаннік!..
Я хутка пайду.

## На зыходзе

Што ні дзень, то мацнеюць вятры, халады,
астывае імпэт у людское хады,
вуглавеюць дамы, палавеюць сады,
высыхаюць у лужынах рэшткі вады,
і нябёсам няма больш глядзецца куды.

Дый нябёсаў няма над зашэрхлай зямлёй,
іх туман засланіў павалокай сівой, —
і зважаем цяпер, перад блізкай зімой,
як цяплеем душой — да сябе, між сабой,
ды жывое травінкі, раслінкі любой.

## Я Вас кахаў...
## (З Аляксандра Пушкіна)

Я Вас кахаў; пачуцці тыя, мусіць,
у сэрцы яшчэ цепляцца маім.
Ды хай ніштo Вас болей не засмуціць,
я не хачу няволіць Вас нічым.

Я Вас кахаў употаю, нямотна,
то з рэўнасці згараў, а то з тугі.
Я вас кахаў так шчыра, так пяшчотна,
як дай жа Бог, каб Вас кахаў другі.

***

Зноў я дома, дома, дома.
І паўзмрок, і цішыня.
І матуля, як мадонна,
ля глыбокага акна.

Кола месяца за ёю,
задуменнай, маладой,
залаціцца чысцінёю,
быццам німб над галавой.

Цень кідаюць дрэваў шаты,
ды з таго яшчэ віднеей:
за сцяною гэтай хаты
мне ні трошкі не вальней.

Што за воля ў падняволлі
грэшных дум і сумятні
біцца, бы вятрыска ў голлі,
абрываць, як лісце, дні?

Адно б доля захацела!
Хату загадзя прашу,
каб адвеялі ад цела
толькі тут маю душу.

Толькі тут ёй будзе добра,
дзе паўзмрок і цішыня,
дзе матуля, як мадонна,
будзе вечна ля акна.

***

Шпаркая мая дарога,
абмінай ты хоць калі
знакі дробнага, дурнога
ўсцяж няглыбкіх каляін.

Паспрабуй, бы рэчка, віцца
па адмецінах красы,
каб не мог я заблудзіцца,
пераблытаць адрасы.

Ад спадманлівых парогаў
адвядзі,
ад здрады збоч:
колькі я даваў зарокаў,
а памылак больш і больш.

Прыпыніся на загібе,
не спяшайся напрасткі
ў змрок,
дзе спеліць мне пагібель
хцівасць слова ці рукі.

Адхлісні з сябе хоць сцежку
перад блізкім схілам дня,
дзе была б не ўперамешку
з ліпкім брудам чысціня!

***

Гэта пэўна, гэта існа:
свет не згіне, век міне;
гэтым далям, гэтым высям
існаваць пасля мяне.

Гэта дробязь, гэта проста —
гэта выпадзе адна
кропля з мора, кропля з росаў,
кропля з горкага віна.

Гэта дзіўна, гэта сумна:
ноч за днём, за ноччу дзень
паплывуць далей бясшумна
без мяне — ні ў чым, нідзе.

Гэта час мой, гэта рата
і ніякай навіны;
што прыйшоў — не вінаваты.
што пайду — няма віны.

Гэта трэба, гэта сніцца:
вы адчулі — не стае
хоць часцінкі, хоць драбніцы,
хоць крывіначкі мае.

Гэта досыць, гэта выйсце:
скрозь смугу ці скрозь імжу
ў гэтых далях, гэтых высях
ляжа ўсцеха на душу.

## Рамяство

Калі ў свой лёс бракуе веры,
няшмат і ў слове глыбіні.
Як часта
мы ўскладняем вершы,
каб не спрасціць іх да гульні!

Не ўсім адкрыецца прытворства,
ды самі — мусім разумець:
не для гульні
даў творцам Творца
выслоўліваць жыццё і смерць.

Ці не таму так адмыслова
радкі прасвечвае сляза
тады,
як простым, ясным словам
спрабуем свет пераказаць?

## З размовы анёлаў
## у небе над Беларуссю

“Ці то парода ў іх…
Ці то Прырода
ім не дае сысці
з накрэсленых кругоў?
То ў веры каюцца,
усім народам,
то выракаюцца,
усім народам, зноў”.

“Там шчэ натоўп.
Яшчэ няма народа.
А ёсць ахвярнікі,
якія з году ў год,
каб быў ён,
ходзяць краем эшафота:
яшчэ адно яны,
адно яны — народ”.

***

Няпраўда, не мы
ў маладосці кідаем
свой куточак радзінны —
кідае нас ён.
Што яго выракаемся
мы —
нам толькі здаецца
ў самотнай гардыні.

Не-не, гэта ён
з нас паволі знікае:
штодня — па крупінцы,
па згадцы, па слоўку,
па церушыначцы ў хаце.

Не-не, гэта ён
ад нас аддаляецца:
усё болей пахілы
там плот, і ўсё меней
там глебы ўскапанай,
і гаснуць світанкі
ў вачах у бацькоў.

Нарэшце там дрэвы
адны застаюцца —
затрымліваюцца,
каб голлем счарнелым
(калі мы вяртаемся)
на нас паказаць,
на нашу
нікчэмную гордасць.

## Перад абуджэннем

Хутка, дзіця, ужо ранак,
ты патанеш у сінечы.
Гэта не мой абяцанак,
гэта твой свет чалавечы.

Зоймецца залатаносна
ясны раскрылены промень.
Недзе высока-высозна
промень той птушка пяройме.

Добраю весткаю птушка
спусціцца на падворак
і праплыве над падушкай,
цішу адгоніць і морак.

Збудзішся ў сонечных гуках,
вымавіш першыя словы.
Дрэвы дадуць табе рукі,
схіляць анёлы галовы…

Як патухалі над домам
зоркі, як курчыўся ветах,
як забірала бяздоннасць, —
буду адзін толькі ведаць.

З ночы бяссоннае выйду,
стомлены поблізу стану,
скрушнае тайны не выдам
і павінюся за тайну.

## Старац

Сярод пусткі, дзе хам расхрыстаў Божы храм,
дзе сады і сядзібы бы вецер злізаў,
дзе ў мільён бізуноў дождж лупіў, — гэтак там,
адзінокі, як поле, ён полю сказаў:

— Эх, пайшло ўсё так-сяк ды наперакасяк,
ліра з кайстрай — сума, з мірам хата — турма,
у старонцы бедлам, на душы кавардак,
і ў прыродзе адвечнай парадку няма.

І сказаў ён: — Мо там, дзе канчаецца свет,
дзе пачне яго зноўку прапрашчур Адам,
будзе мужным народ, стане вольным паэт
і пяяць наўзахлёб салаўіным садам.

Гэтак полю сказаў, дзе і храм быў, і сад,
і пачулі яго, і трымалі адказ:
— Памаліся за нас і вяртайся назад,
уваскрэснуць радзіме пакуль што не час.

Замаркоціўся старац: — Куды ж я пайду?
Я цяпер і магілы сваёй не знайду.

## **Балада зорак**

**Васілю Сахарчуку**

Палову жыцця паміж велічных зорак
блукаў я,
забыўшыся ўзяць позірк маці, —
ён знізу свяціўся тужлівым дакорам,
ды ў зорках
ня рупіўся адлюстравацца.
Не ўзяў і пагляду бабулі з сабою,
сівой і нямоглай, амаль невідушчай,
што ўслед пазірала сваёй злыбядою, —
згубіўся пагляд яе
ў зоркавай гушчы.
Пакінуў каханае вобраз маўклівы,
журлівы і роздумны, бы адвячорак,
а згадваў адно ў ім
святла пералівы
і ўцеху — умею сягаць аж да зорак.
І вочак дачкі, вечна весняй сінічкі,
не ўзяў я, усклаўшы надзею на Бога,
хоць бачыў,
што бляклі, бы сінія знічкі;
пабляклі — выходзіць — з маёй запамогай…
Нарэшце спусціўся на родны падворак
і стаў ля пахілае чорнае студні,
дзе сотняю,
тысяччу,
безліччу зорак
лятункі мае астывалі і тухлі.
Нічыйная хата была, і нічыйны
быў сам…
Плакаў скрушна і горка…
А блізка ўздымаліся ў неба жанчыны —
чатыры ўваскрэслыя сціплыя зоркі.

## Без адказу

### Ахвярам рэпрэсій

**1**

Хтось прылятае на мокрых вятрах
і апускаецца ўпотай на дах,
звешвае космы з карніза да шкла,
моўчкі глядзіць, покуль ноч не прайшла.

Гэтак ён доўга ўзіраецца ў мой
зыбкі ад дыму бяссонны пакой,
што ад залежаных ног "мурашы"
ў боль пераходзяць датклівай душы.

Смокча па кроплі з таго пачуцця,
што скаланацца змушала дзіця,
скочвацца долу, спяшацца пад схоў
ціхіх, загадкавых бацькавых слоў:

"Сыне мой, гэта запознены птах
сеў адпачыць на абветраны дах,
ты не трывожся ў ягоны прылёт, —
гэтак ён восень прыносіць штогод..."

Недзе ў маленстве застаўся той птах.
Скуль жа ў пакой зноў панадзіўся страх?
Што ж не дае мне запальваць сьвятло,
хто там відзён скрозь свінцовае шкло?

**2**

Асатанела бяссонне — і зноў
згадкі блукаюць у цемры гадоў
мройных, глыбокіх — без межаў і дна:
восень і ноч, ноч і восень адна.

Сцішна цягнуўся тады лістапад.
Бацька забраны вярнуўся назад,
ды з той пары ледзь не кожнай начы
нехта за ім, нібы воран, сачыў.

Позірк мо той жа ў асеннім акне,

чорны і стылы, згідчэлы і мне?
Дзе ўжо канец? Спіць мой сын за сцяной.
Божа, не дай яму ночы такой!

Гэта не мройліва-казачны птах
сеў у чаканні панура на дах;
гора, як зноўку пачне свой аблёт, —
па чалавеку знікацьме народ…

Знаю, жытло не адзіна маё
ніжа сляпое яго вастрыё,
звыклыя страты ў маёй старане:
бацька вярнуўся, а тысячы — не.

Цьмяныя бліскаўкі ў пройме двара:
лісце ці свечкі ў жалобе гараць?
З полымем гневу бягу да акна —
і адхіляе свой твар Сатана.

**3**

Ясніцца досвітак; быццам наноў,
бачу стамлёныя вокны дамоў,
тухнуць агні, а на зрэнках са шкла
ўспыхваюць кроплі жывога святла.

Свецяцца мокрыя космы галля,
дыхае свежа пад імі зямля,
плыць пачынае людская рака,
і — ані ворана, ні “варанка”.

Спехам выходжу ў прасветлены дзень,
пільна ўзіраюся ў твары людзей:
а ці зракліся ж пакоры яны,
страху і ганьбы — знікаць без віны?..

**4**

…Ноч. Нерухомы пагляд Сатаны.

***

Маўчання час — глыбокага, як вечар,
час роздуму — журботнага, як восень,
пра шлях нядоўгі ў веку чалавечым,
які прайсці лёс болей не запросіць.

Час паяднання з несамотным Богам
і цішай траў, што з мудрасцю заручаць.
З жыццём — жыццё, з эпохаю — эпоха:
складаецца з імгненняў неўміручасць.

Заходзіць сонца, і на даляглядзе
злучаецца зыход з пачаткам шляху.
Так проста адкрываецца суладдзе,
калі сарваць з вачэй павязку страху.

***

Старое грае, сам стары,
з усхліпам, зболена, мінорна.
Не чуюць. Слухаюць прытворна
музыкі новае пары.

Яму, хто смуткам сее смех,
яны не скажуць, што зайздросцяць…
Як скрыпкі зграбныя, тут госцяць
часцей, чым музы, жрыцы ўцех.

Інакшы храм і час. І плач
тут не ўспрымаецца сур’ёзна.
Не спавядайся ж гэтак слёзна,
памерлай музыкі скрыпач!

Над муміямі слёз не льюць,
дык прэч адсюль, каб недзе босым,
расхрыстаным — зайграць нябёсам:
яны шчэ здатныя пачуць.

***

Такая ціша за акном,
што і адной шчымлівай ноты,
заспеўшай раптам перад сном,
даволі да сыходу ночы.

Як быццам на адной струне,
глыбока тоячы маўчанне,
зайграў скрыпач — і важна не
парушыць цішыні гучанне.

У тым гучанні міг і век,
адзінства заўтрага й былога,
у ім і сам ты, чалавек, —
ах, як адное ноты многа!

І — толькі слухаць, толькі чуць,
не быць ні сумным, ні смяшлівым;
смяшынку кінуць ці ўздыхнуць —
і ўсё, і цішыня сфальшывіць.

***

Слядоў дзіцячых мала ў вёсцы,
найбольш — дарослыя сляды:
туды, у поле…
Пры бярозцы
пачаты новыя клады.
Мякчэе ўзгорачак дзірванны
то пад дажджом, то пад слязьмі.
Што ж, буду тут і я названы
між імі, ціхімі людзьмі.
Няма нідзе мацнейшай веры
і памяці чысцейшай, чым
у роднай вёсцы…
Дома дзверы
празрыста свецяцца ўначы.
Мне бачыцца: з-пад небакраю
ідуць яны
з гадоў былых…
Сню кожны раз, як прыязджаю,
нібыта ўваскрашаю іх.

## Балада
## начной сустрэчы

Дзвярэй, гаротная, не адамкне…
Сябе самую бачыць у акне,
свайму адбітку голас падае:
“Скажы мне, мама, дзе ключы мае?”
Пад ганкам пашукае і ў траве,
абыдзе двор у месячным сяйве,
двор запусцелы — з чэзлым вішняком,
з хлявом на злом, з хацінай пад замком.

Зноў да сябе вяртаецца — да той,
што пазірае з хаты нежылой,
з-за шкла не азываецца, маўчыць,
не кажа, дзе падзеліся ключы.
“Пусці ж у хату!.. Буду жыць прасцей,
з казённых ложкаў забяру дзяцей,
больш не падамся ў белыя муры”, —
стаіць і прыгаворвае ў двары.

Ступае з саду маці да яе,
ледзь маладзейшай, і — не пазнае:
“Не тут я ўжо… Ніхто тут не жыве,
дачка шукае ліха галаве —
мяне не прыязджала пахаваць”.
Ды матчын голас госці не чуваць, —
ёй, утрапёнай, мроіцца адно:
вось-вось адчыніцца ў святле акно…

Ёй не відно, як з месячнай начы
сыходзіць маці, кінуўшы ключы.

***

Каго чакае ля парога,
каго вышуквае ў двары?
Нікога там няма, нікога,
а толькі ноч і сад стары.

Патупае па ім, па ніцым,
ля аканіцаў пастаіць.
На схіле дзён шчэ меней спіцца,
чым закаханец юны спіць.

У цемры ночы час апошні
яскравей і смялей відзён,
і гэта пагулянец позні
не хоча траціцца на сон.

Бывае, да суседа зойдзе,
два словы скажа, памаўчыць
ды зноў вяртаецца прыродзе,
старому саду і начы.

І зноў чакае ля парога,
кагось вышуквае ў двары,
а там — нікога, апроч Бога,
з ім і выходзіць гаварыць.

***

Люблю, калі сівы мастак — дзіця,
калі да весняй макраты і прэлі,
да бурых сцен і жухлага лісця
ён далучае неба акварэлі.

І гэтак несуладна з чарнатой
асфальту ў лужынах і нізкай хмары
чысцюткіх фарбаў плешчацца настрой
ля шпаркіх ног, што месяць тратуары.

За рамкай, там, — трымклівая краса:
прастора ўскраін, птахі па-над ёю,
а побач, тут, — то шорсткі ўзмах крыса,
то чаравік з учэпістай гразёю.

Спяшаюцца прахожыя, і аж
кіпіць слата пад мітуслівым бегам,
на шкле карціны лепячы калаж:
лістоты прэль, акурак, дождж са снегам.

Абмок, з’інеў мастак і сам як ёсць.
Ды скрозь тужлівасць
у паглядзе пільным
свіціцца, быццам просінь, весялосць:
такой бяды, што неба не купілі!

## Простая астралогія

Шляхам Птушыным да Мілавіцы
спяшаецца Візнік — павек не даедзе.
Бачыш: перакуліліся адзін за адным
Воз Вялікі, а воддаль — Малы?..

Гэта і ўсё, што я здолеў сказаць
у думках табе ў тую ноч,
калі дзесьці далёка і ты
самотна ўзіралася ў зорнае неба.

## Супакаенне
## (З Блажы Конескага)

І збылося, і прычакалася
ўсё, што доляй наканавана.
Мрою-думаю абыякава,
толькі згадваю ўсхвалявана.

Чыста ўсё на краёчку складзена
і з хвалой, і з мальбой да Бога.
Вы паплачце па іншых, я
сам аплакаў сябе самога.

## Між воблакамі

Сны мае
　　　　даўно ўжо не лётаюць,
яны панурымі воблакамі,
набухлымі ад знявер'яў і страт,
грувасцяцца ў бяссонні памяці.
Аднак жа
　　　　зрэдзьчасу бачу між імі
празрыста-блакітных анёлкаў —
гэта ў сненне маё на золку
ўплятаюцца сны
　　　　　　　　　　ўзятай небам дачкі.
"Як жа сюды вы патрапілі?" —
і скрушна, і ўдзячна крычу ім
і паказваю ў просінь між воблакамі —
між маімі сумнымі
　　　　　　　　　　ахоўнымі знакамі.
А на самай мяжы абуджэння
вочы мае напаўняе
　　　　　　　　　　няхмарнае неба;
вейкі — дрыготкія, бы крыльцы анёлкаў —
трымаюць буйную і светлую
слязу ачышчэння.

***

Дрыжынка прабегла па жыце.
Спалох, які ўзнік ніадкуль,
спаволіў мой крок на сцяжынцы,
на посаху сціснуў руку.

Абвёў я вачыма наўколле.
Ні ветрыку. Сонца, смуга
ды роўнае-роўнае поле,
ды сіняга лесу дуга.

Абсяг нерухомых нябёсаў,
без межаў, як вечнасць, разлог…
Што значу тут я?.. А здалося,
што быў ніадкуль мой спалох.

## Рукі

Гэтым дужым рукам
паддавалася ўкаменелая глеба,
пакланяліся травастоі,
паслугавалі камлістыя хвоі,
што клаліся ў звонкія зрубы.

Гэтыя рукі ўмелі
валодаць вясельным гармонікам
і старою хрыпатаю скрыпкай
не горш, чым касой і сякерай,
плугам і печніковаю кельмай.

Гэтыя добрыя рукі
цягнуліся да рук самавітых, як самі, —
і тых, што варочалі камень,
і тых, што запісвалі песні,
і тых, што маліліся небу.

Гэтым рукам агідна
выводзіць было пад дыктоўку
імёны ўладальнікаў рук спрацаваных,
паказваць на дзверы і вокны,
якіх яны часта і чыста краналіся.

Гэтых рук не прымусілі
сціскацца ў кулакі ані суддзі,
ані прыганятыя ў рудных капальнях;
іх, потым вольных, баяліся брудныя рукі,
а незаплямленыя — рэабілітавалі.

Гэтыя рукі сустрэліся
з рукамі жанчыны ссівелае,
каб з імі злучыцца па лініях лёсаў, —
ды як мала, як мала ад іх засталося:
толькі цвікі, ад крыві паржавелыя.

***

Шлях канчаецца — бачу мяжу,
дык навошта на ўскрайку ліпею?
Пэўна, дрэва яшчэ пасаджу,
ды яго ўзгадаваць не паспею.

Яшчэ сум па жаночым цяпле
не дае сэрцу вымерзнуць лёдам.
Пэўна, зноўку прыйду да цябе,
але з тым, каб пайсці назаўсёды.

Новых дзён і начэй чараду
прыпасаю на ўсепакаянне.
Пэўна, іншую песню складу,
ды яна рэхам даўняе стане.

Згукаў вечнасці ў ёй не ўлаўлю,
буду збіты няплённасцю з тропу.
Пэўна, свет, якім жыў, знелюблю,
але моцы для бунту не хопіць.

Толькі хопіць сябе асудзіць
за хвіліны адчаю і гневу,
каб ачуцца і ўзяцца садзіць
ад мяне не залежнае дрэва.

## З усяночнае

Купкай, чародкай, гуртом
ідуць прасветленыя, балазе
высока-высока — працягам малітвы —
нарадзіўся гэтаю ноччу снег.
Бязважкі, амаль што самое святло,
ён кладзецца на шапкі, на хусткі,
на вейкі — яднаецца з промнямі позіркаў
і ўвачавідкі робіць старых маладымі,
а хлопцаў, дзяўчат — пасталелымі.
Яны ціха ідуць; нават юная самая —
а гарэзлівымі кудзеркамі валасоў
і стрыманымі смяшынкамі —
моўчкі туліць да маленькіх грудзей,
да цнатлівага вабнага твару
пульхны і лёгкі снегу камяк,
нібы спавіванага сына...
Ідуць пада мною, пад адталым акном
купкай, чародкай, гуртом
і нясуць падсінены раніцай снег —
блізкае мне, але недасяжнае неба.

***

Рака. Пясок. Бязлюдны бераг.
Спакой і глыбіня нябёс.
Нібыта ўсё жыццё я змераў
і ўсё ў адной слязе прынёс.

Нібы з усіх шляхоў спакусных
вярнуўся сэрцам акрыяць
каля вытокаў, дзе пакуль што
пустэльны бераг, Бог і я.

І ўжо няма балючых згадак,
як век, як шмат вякоў назад.
І толькі босы след, — пачатак, —
і толькі чысты далягляд.

## Таямніца

Наперадзе не нішто, не пустота, а невядомасць, самая вялікая ў свеце таямніца.

Яна іншы раз прамаўляе ў нас голасам падсвядомасці:

— Усім дадзена зведаць мяне, а ты як быццам хочаш быць абдзеленым, хацеў бы застацца ўбаку, у гардыні самоты. Не зрабіся ізгоем ні тут, ні там.

Яна падбадзёрвае нас:

— Збірайся ў невядомасць, як збіраешся ў далёкую, не знаёмую табе дарогу: з трывожна-сумным, але трапяткім пачуццём, нязменна прыемным, нават калі ты не ўпэўнены, што вернешся.

Нарэшце яна прыадхінае заслону:

— Наперадзе не змрок, а выйсце са змроку, і яно пачынаецца ў табе самім.

## Струмень мудрасці

Адкуль у тваю маладосць, у твае шчаслівыя дні наплывалі невымоўная туга, шчымлівасць, меланхолія? Яны праяўляліся нават у самым высокім палёце душы — у яднанні з харастом зямлі і неба, у творчых памкненнях, у радасці кахання. Ты быў шчаслівы, а ў тваю падсвядомасць, у твае таямніцы зноў і зноў упаўзала змяя-думка, цень думкі, пра мімалётнасць усяго і непазбежны зыход.

Цяпер, калі розум адкрыў зыход напоўніцу, а душа скурчылася пад ягоным гнётам, ты абыякава сузіраеш прыроду, гоніш прэч вершаваны радок, грэбуеш зірнуць у вочы закаханай у цябе жанчыны.

Яшчэ, хоць і далёка за мяжой маладосці, ты не стаў мудрым, не адрадзіў душы любоўю. Ты яшчэ не спасціг, што ўвесь час ты жыў у сабе і дзеля сябе, не зразумеў, што цяпер, бы калісьці думка-змяя, мае права гэтак жа ўладна сягнуць у твае глыбіні і застацца там пачуццё любові — чысты і бескарыслівы струмень мудрасці.

## Змест